Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 22 (73). Вільня, Субота 5 Сакавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Зьмена выбарнага закону.

У канстытуцыйнай камісіі Сойму ідзе разгляд чатырох праектаў аб зьмене выбарных законаў да ўставадаўчых палатаў Сойму і Сэнату. Гэтыя чатыры праекты паданы правіцовымі клюбамі: людова-нарадовым саюзам, (Z. L. N.—эндэкі) польскай народнай партыяй) P. S. L. — Пяст), хрыстыянскай дэмакрацыяй (Ch. D. — хадэкі) і клюбам хрысціянска-нацыянальным (Ch. N.) Гэтая чацьвёрка належыць да найбуйнейшай, часткі соймавай рэпрэзэнтацыі. Яна прадстаўляе: купцоў, прамыслоўцаў, банкіраў, абшарнікаў, клер і нарэшце, тут ідзе як па драбінцы, дробная шляхта і заможныя „кулакі“, агулам кажучы — буржуазія. Як бачым, дык у гэты склад палітычнай групіроўкі ўвашлі выключна, самыя консэрватыўна-рэакцыйныя партыі.

Зьмена выбарнага закону нас бязумоўна цікавіць, дык дзеля гэтага самага, хочацца прытачыць некалькі сваіх увагаў. Але, перадусім, мусім пазнаёміцца, хоць павярхоўна, з агульнымі асновамі кожнага праекту.

Пасол Гломбінскі, які рабіў даклад камісіі адзначыў, што эндэцкі праект, падрабязна апрацаваны, мае на мэце ўмацаваць рэпрэзэнтацыю (прадстаўніцтва) заходняй і сярэдняй часткі краю, гэта знача: Пазнані, Заходняй Галічыны і Кангрэсоўкі ці каранной Польшчы, з пагляду на большую падаткавую і гаспадарча-культурную сілу жыхарства ў параўнаньні з жыхарствам усходняй часткі краю, г. з. — беларускіх і ўкраінскіх зямель.

Гэта самае выказвае і праект хадэкаў, хіба толькі і з тэю розніцаю, што эндэкі хочуць, каб было пасloў 224 і сэнатараў 56, а хадэкі — каб было 320 пасloў і 80 сэнатараў.

Праект „Пяста“ і Ch. N. таксама падобныя адзін аднаго; іх агульнаю характэрнаю адзнакаю ёсьць тое, што яны жадаюць, на аснове іх праектаў, даць ураду паўнамоцтвы выдаць у форме распараджэньня новы выбарны ў Сойм і Сэнат закон. Лічба пасloў ня можа перавышаць 300, з якіх 1/6 праходзіць па дзяржаўным спіску (рэшта з выбарных акругоў). Выбары (галасаваньне) адбываюцца не па спісках, а на індывідуальных (паасобных) кандыдатаў. Кандыдат, які выстаўляецца партыяй, якая ня мела 15 пасloў у старым Сойме, павінен прадставіць 1000 подпісаў выбаршчыкаў якія падтрымліваюць, яго кандыдатуру, або залажыць 2.000 злотых золатам, якія пайдуць на карысьць скарбу, калі кандыдат не атрымае 100 галасоў. Што-ж можна прыкмеціць з гэтакай пастаноўкі справы? — Жаданьне польскае буржуазіі, праз пасярэдніцтва розных узаконеных загародак, не дапусьціць, каб у Сойм прашлі прадстаўнікі бяднейшых клясаў, а асабліва—славянскіх нацыянальных меншасьцей, калі праектуецца, вызначыць меншую колькасьць пасloў ад нашых зямель. Ведама, што цяжка будзе выстаўляючы паасобна (індывідуальна) кожнага кандыдата сабраць 1000 падпісаў, або залажыць 2.000 зл. золатам каўцыі. Для буржуазіі гэта ня можа быць перашкодаю, а для працоўных масаў гэта зусім немагчымая рэч. У каго грошы ў таго сьвята,—кажа прыказка, — за грошы ўсё можна—гавора другая.

Вышэй гаварылася, што ня будзе прынята кандыдатура, калі яе выстаўляе партыя якая ня мела ў папярэднім Сойме 15 пасloў. Дык вось, гэты, ды наагул усе прыведзяныя аргумэнты, могуць пашкодзіць толькі нам, а знача на супроць нас скіраваны ўсе буржуазныя праекты аб зьмене выбарнага закону.

Якое-ж становішча, у адносінах да праектаў польскіх буржуазных клюбаў, павінна заняць мы?

— Заўсёды, як кажа прыказка — з усіх злыбяд трэба выбіраць найменшую, азнача, як бы ня быў благім стары выбарны закон, усё-ж такі ён ёсьць лепшы за той новы, які можа толькі зьявіцца. Нашы паслы, як прадстаўнікі беларускага народу, будучы ў Сойме ўсё-ж такі змушаюць польскі ўрад, час ад часу, хоць крывым вокам зірнуць на нас і задумацца... Калі-ж мы ўтрацім іх, дык тагды на нас ня будуць аглядацца, а газэты напішуць, што Беларусаў зусім няма і на адсутнасьці беларускага прадстаўніцтва ў Сойме, будуць грунтаваць свае вывады. Мэта ўсіх чатырох праектаў ёсьць імкненьнем толькі да гэтага і затым да ўсіх праектаў зьмены выбарнага закону мы можам адносіцца крытычна і выступіць проці іх.

Ёсьць яшчэ адна вестка, што ўрад не згаджаючыся з гэтымі эндэцка-пястова-хіенскімі праектамі, праз пасярэдніцтва аднаго з соймавых клюбаў, выступіць з уласным праектам. Трэба ведаць, што для нас ён лепшы ня будзе! Пры гэтым, таксама трэба ведаць, што калі папярэднія імкненьні і сучасныя праекты некатарых соймавых клюбаў ня мелі і ня маюць пасьпехаў, дык урадавы праект найхутчэй можа прайсьці і прыняцца як закон. Наагул, сучасны ўрад ня прыступіць да выбараў са старымі прыладамі. Пры сучаснай палітычнай сытуацыі ўрад праіграе, дык адчуваючы гэта, будзе шукаць выхаду.

Усё гэта ясна даказвае, што нам Беларусам трэба арганізавацца, бо толькі арганізаваным парадкам, мы зможам абараніць сябе. Дык, каму дарага наша будучына павінен неадкладна ўпісацца ў свой Беларускі Сялянскі Саюз цяперка, каб потым меней стагнаць ды охаць. Толькі праз свае беларускія арганізацыі зможам здабыць усе належныя нам правы.

*Скарга.*

Ф. Ярэміч.

## Беларусы, іх сучаснае палітычнае палажэньне і іх імкненьні.*)

Беларускі народ належыць да сям'і ўсходне-славянскіх народаў і займае тэрыторыю каля 350.000 квадр. км. у вадастоках верхняга Дняпра, Дзьвіны, а таксама верхняга і часткава сярэдняга Нёману. Усюды на гэтым абшары Беларусы жывуць густаю масаю, якая становіць пераважную большасьць тутэйшага жыхарства (ад 70 да 90%).

Сусьветная вайна, якая многім эўропэйскім народам прынясла вызваленьне з адвечнай няволі, вольнасьць і незалежнасьць—для Беларусаў скончылася падзелам беларускай нацыянальнай тэрыторыі паміж трамя дзяржавамі: Саюзу Сац. Рад. Рэспублік, Польшчы і Латвіі. Гэтакім чынам у Саюзе Сац. Рад. Рэспублік у сучаснасьці знаходзіцца каля 8 міліёнаў Беларусаў, займаючы там абшар каля 250 тыс. кв. клм., у Польшчы болей 2 міліёнаў, на абшары каля 100 000 кв. клм., да Латвіі далучана невялікі абшар беларускай зямлі з жыхарствам 200.000 душ. Акрамя гэтага ёсьць на Сібіры блізка міліёна Беларусаў, а ў Злучаных Штатах Паўночных Амэрыкі болей за 1/2 міліёна беларускіх эмігрантаў. Агульная лічба Беларусаў выносіць каля 12 міліёнаў.

З рэлігійных пагляду 4/5 Беларусаў належаць да праваслаўнай царквы, 1/5 — каталікі. У Заходняй Беларусі Беларусаў - каталікоў ёсьць 50 проц.

Культурны сьвет мала паінфармаваны аб адраджэньні беларускага народу, які ў перадваенных гадох, пад уплывам Расеі, быў залічаны да расейскага народу. У запраўднасьці ў 19 сталецьці беларускі народ, падобна як і іншыя славянскія народы—адрадзіўся і паміма страшнага ўціску з боку расейскіх урадаў і надта сільных культурна-рэлігійных уплываў заходняга суседа, г. зн. Польшчы, пачаў закладаць першы фундамант уласнага гмаху нацыянальнай адзінкі. Паўстаюць тагды першыя культурныя беларускія арганізацыі, першыя беларускія кніжкі (якія з прычынаў забароны друкаваньня пранікалі з заграніцы), а па выбуху расейскай рэвалюцыі 1905 году—першыя беларускія газэты. Тагды ўжо беларускі нацыянальны рух перакідаецца на чыста палітычнае поле. Беларусы далучаюцца да агульнага дамаганьня: перабудовы расейскай імпэрыі на асновах тэрыторыяльнай аўтаноміі, пераформаваньня яе ў фэдэрацыйнае гаспадарства, ў якім Беларусь павінна станавіць асобную дзяржаўную адзінку. Але-ж паварот рэакцыі ў наступных гадох іноў затрымаў свабоднае разьвіцьцё нацыяльнага беларускага руху. Затрымаў, але-ж —не здушыў.

*) Гэты артыкул пасла Ф. Ярэміча зьмешчаны у № 1—2 месячніка „Natio“, выдаваным нацыянальнымі меншасьцямі у польскай, нямецкай, француской і ангельскай мовах, як надта цікавы падаем і у „Сялянскай Ніве“ знаемячы нашых чытачоу з напрамкам часопісі.

